

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 49 (537) 12 СНЕЖНЯ 2001 г.


# 8 снежня 2001 года споўнілася 10 гадоў рэальнай незалежнасці Беларусі

## Ларыса Геніюш мае дачыненне да ўсёй Беларусі і да кожнага беларуса

9 снежня 2001 года ў Старых Дарогах на сядзібе Мастацкага музея Анатоля Белага адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Вялікай Беларусцы Ларысе Геніюш.

На ўрачыстасць з'ехаліся дэлегацыі з розных куткоў Беларусі: з Менска, з Ліды, з Баранавіч (чалавек каля 20), са Слуцка, з Асіповічаў. Прыехаў амбасадар Францыі. Прыехалі вязні сталінскіх лагераў, якія адбывалі катаргу разам з Ларысай Геніюш.

Урачыстасць распачалі Анатоль Белы і Старшыня Саюзу беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава. На адкрыцці помніка выступілі аўтар: скульптар Міхась Інькоў, вязень ГУЛагу Пятро Шатэрнік, старшыня Баранавіцкай арганізацыі ТБМ Віктар Сырыца, прафесар Аляксей Саламонаў, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, ураджэнец Зэльвеншчыны пісьменнік Міхась Скобла ды шмат іншых.

Ізноў нейкім з выступоўцаў было ўзнятае пытанне, а якое ж дачыненне мае Ларыса Геніюш да Старых Дарогаў? І зноў быў дадзены ўсё той жа адказ: Ларыса Геніюш - асоба той велічыні, што мае дачыненне да кожнага горада, да кожнай вёскі, да кожнага куточка Беларусі. Палякі паставілі больш 50 помнікаў Адаму Міцкевічу па ўсім свеце. Ніхто не запярэчыць беларусам, калі яны захочуць паставіць некалькі помнікаў Ларысе Геніюш.

Улады Зэльвы пакуль не дазваляюць устаноўку помніка ў Зэльве. Хай стаіць у Старых Дарогах, хай ставяць у іншых гарадах.

Размаўляючы са скульптарам я запытаў пра асаблівасць выканання вачэй, яны выкананы не так, як у суседніх скульптураў. Я не зразумеў яго адказу і толькі атрымаўшы ў рукі здымак убачыў, што вочы помніка свецяцца жывым сонечным святлом. Вось і ўся ідэя.

А побач з помнікам Ларысе Геніюш ужо падрыхтаваны пастамент пад стэлу ў гонар абаронцаў роднай мовы, на якой праводзе словаў Анатоля Белага будзе выбіта 150 імёнаў найбольш відных змагароў за нашую мову.

*Станіслаў Суднік.*



Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава выступае на адкрыцці помніка Ларысе Геніюш

## 80 гадоў з дня нараджэння СЦЯПАНА АЛЕКСАНДРОВІЧА



14 снежня 2001 года ў Менску, у памяшканні Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа (пр. Ф. Скарыны, 66 а) адбудзецца вечарына, прысвечаная 80-м угодкам з дня народзінаў беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка культуры **Сцяпана Хусейнавіча Александровіча.**

Пачатак а 14-й гадзіне.

Тэлефоны для даведак: 261-84-93, 284-15-84, 284-06-65.

*(Матэрыялы пра Сцяпана Александровіча чытайце на ст. 5)*

## Сімволіка ТБМ на беларускіх марках




Нядаўна Міністэрства сувязі Беларусі выпусціла стандартную беларускую марку коштам 1000 руб з выявай цэнтральнай часткі афіцыйнай сімволікі ТБМ - Скарынаўскага знака ў выглядзе спалучэння сонейка з месяцам.

Прапануем нашым сябрам і прыхільнікам актыўна карыстацца гэтай маркай, асабліва пры перасылцы сваіх лістоў і бандэроляў за мяжу.

*Сакратарыят ТБМ.*




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Радзіванюк Г.Р – 1000
2. Філічонак Л.А. – 1000
3. Лукашонак Т.А. – 1000
4. Язерскі С.А. – 1000
5. Яначкін І.І. – 3000
6. Малышава Н. – 3000
7. Шкірманкоў Ф. – 5000 (Слаўгарад)
8. Лавіцкі Мікола – 1000
9. Лагвіновіч Іван – 5000 (Баранавічы)
10. Андрэй Волчак – 10 $ (Польша)
11. Анацка Лявон – 2400 (Ліда)
12. Саковіч Вольга – 10 $ (Вільня)

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка, код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## АБВЕСТКА

Чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ адбудзецца 16 снежня 2001 года ў памяшканні Дольнай залы Чырвонага касцёла, што на плошчы Незалежнасці ў Менску.

Пачатак працы ў 11 гадзін.

**Парадак дня:**

1. Справаздача аб дзейнасці ТБМ у 2001 годзе.
2. Абмеркаванне і зацвярджэнне плана работы ТБМ на 2002 год.
3. Аб працы над праектам "Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".
4. Аб памеры і чарговасці збірання сяброўскіх складак.
5. Аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.
6. Рознае.



№ 49 (537) 12 СНЕЖНЯ 2001 г. наша СЛОВА

***ЗАЦВЕРДЖАНА***
***Пастанова Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь***
***"27" 08. 2001 г. № 48.***

# Праграма

## дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі

| Мерапрыемствы | Тэрмін выканання | Адказныя |
|---|---|---|
| **I. Арганізацыйныя мерапрыемствы.** | | |
| 1. Стварыць пры Міністэрстве адукацыі каардынацыйны савет па вызначэнні стратэгіі пашырэння беларускамоўнай адукацыі. | люты 2002 г. | Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі |
| 2. Прааналізаваць моўны рэжым ва ўсіх тыпах навучальных устаноў і вызначыць перспектыву развіцця сеткі школ, дашкольных устаноў, ПТВ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, груп і плыняў з беларускай моваи навучання. | да 1 траўня 2002 г. | Упраўленні і аддзелы адукацыі, саветы навучальных устаноў |
| 3. Пашырыць сетку школ з ухілам, гімназій, ліцэяў з арганізацыяй навучальна-выхаваўшага працэсу на беларускай мове. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленні і аддзелы адукацыі аблгарайвыканкамаў |
| 4. Ажыццявіць паступовы перавод на беларускую мову візуальнай інфармацыі ў навучальна-выхаваўчых установах. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Кіраўнікі ўстаноў |
| 5. Пашырыць вядзенне справаводства на беларускай мове. вызначыць пералік абавязковых дакументаў для падрыхтоўкі і выдання на беларускай мове. | пачынаючы з 2002 года | Упраўленні і аддзелы міністэрства, упраўленне кантролю, справаводства і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння |
| 6. Забяспечыць ужыванне беларускай мовы пры правядзенні педагагічных саветаў школ, ПТВ, ССНУ, вучоных саветаў ВНУ, пасяджэнняў саветаў факультэтаў, кафедраў і інш. | пастаянна | Кіраўнікі ўстаноў адукацыі |
| 7. Устанавіць аднолькавыя суадносіны друкавання матэрыялаў у двухмоўных перыядычных педагагічных і прафесійных выданнях Міністэрства адукацыі на беларускай і рускай мовах. | пастаянна | Рэдакцыйныя калігіі выданняў |
| **II. Сістэма дашкольнага выхавання.** | | |
| 1. Пашырыць сетку дзіцячых дашкольных устаноў з беларускай моваи выхавання ў гарадской мясцовасці. Забяспечыць у іх выхаваўча-навучальны працэс, вядзенне справаводства і дакументацыі на беларускай мове. | 2002/2003 навучальны год | Упраўленні і аддзелы адукацыі аблгарайвыканкамаў |
| 2. Стварыць у кожным раёне апорныя дашкольныя ўстановы з арганізацыяй комплекснай работы па развіцці беларускай мовы, азнаямленні дзяцей з культурнай спадчынай Беларусі. Распрацаваць перспектыўны план развіцця беларускамоўных апорных дашкольных устаноў. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленні і аддзелы адукацыі аблгарайвыканкамаў |
| 3. Забяспечыць курсавую падрыхтоўку педагагічных работнікаў беларускамоўных дашкольных устаноў на беларускай мове. | пастаянна | Упраўленні і аддзелы адукацыі, ІПК |
| 4. Забяспечыць дашкольныя ўстановы, якія ажыццяўляюць выхаваўча-навучальную работу на беларускай мове, праграмай выхавання і навучання "Пралеска" (беларускамоўны варыянт), адпаведнай вучэбна-метадычнай літаратурай на беларускай мове. | 2002/2003 навучальны год | Упраўленне дашкольнага выхавання, НМЦ вучэбнай кнігі і сродкаў навучання |
| 5. Арганізаваць эксперыментальныя пляцоўкі "Этнасад" з мэтай азнаямлення дзяцей дашкольнага ўзросту з культурнай спадчынай Беларусі. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленне дашкольнага выхавання |
| **III. Сістэма школьнай адукацыі.** | | |
| 1. Пашырыць сетку агульнаадукацыйных школ з беларускай моваи навучання ў гарадской мясцовасці. У кожным раённым цэнтры, раёне гарадоў адкрыць не менш адной школы з беларускай моваи навучання. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленні і аддзелы адукацыі аблрайгарвыканкамаў |
| 2. Стварыць у рэспубліцы сетку гімназій з беларускай моваи навучання. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленні і аддзелы адукацыі аблрайгарвыканкамаў |
| 3. Адкрыць для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, школы-інтэрнаты з беларускай моваи навучання і выхавання, забяспечыць іх адпаведнай вучэбна-матэрыяльнай базай. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Аддзел спецыяльнай адукацыі, упраўленні і аддзелы аблрайгарвыканкамаў, аддзел спецыяльнай адукацыі |
| 4. Распрацаваць Палажэнне аб узорнай гарадской беларускамоўнай школе. Штогод да 1 верасня па прадстаўленню абласных упраўленняў адукацыі прысвойваць лепшым школам ганаровае званне "Узорная беларускамоўная школа". | 2001 год | Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі |
| 5. Прыняць неабходныя меры па забеспячэнні ў беларускамоўных школах (класах) выкладання прадметаў вучэбнага плана на беларускай мове. | пастаянна | Упраўленні і аддзелы адукацыі, Галоўнае ўпраўленне агульнгай сярэдняй адукацыі |
| 6. Павялічыць колькасць школ і класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры, укамплектаваць іх высокакваліфікаванымі кадрамі, вучэбнай і метадычнай літаратурай. Стварыць у гарадах рэспублікі апорныя школы з паглыбленнем вывучэннем гэтых прадметаў. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленні і аддзелы адукацыі |
| **IV. Сістэма прафесійна-тэхнічнай адукацыі.** | | |
| 1. Адкрыць прафтэхвучылішчы (вучэбныя групы, аддзяленні ў іх) з беларускай моваи навучання. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленне прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі, кіраўнікі навучальных устаноў |
| 2. Ва ўсіх ПТВ сельскагаспадарчага профілю, ПТВ, якія рыхтуюць кадры для гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання, транспарту, лёгкай прамысловасці, машынабудавання, адкрыць аддзяленні для навучання на беларускай мове па прыярытэтных прафесіях. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Упраўленне прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі, кіраўнікі навучальных устаноў |
| **V. Сістэма вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.** | | |
| 1. Распрацаваць перспектыўны план адкрыцця беларускамоўных плыняў у гуманітарных, тэхнічных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. | сакавік 2002 год | Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, рэктары ВНУ, кіраўнікі ССНУ |
| 2. Адкрыць у вышэйшых навучальных і сярэдніх спецыяльных установах, у тым ліку рэгіянальных, вучэбныя групы, аддзяленні з беларускай моваи навучання. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, рэктары ВНУ, кіраўнікі ССНУ |
| 3. Адкрыць беларускамоўныя групы на факультэтах давузаўскай падрыхтоўкі. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, рэктары ВНУ, кіраўнікі ССНУ |
| 4. Ажыццявіць перавод навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускую мову ў педагагічных сярэдніх спецыяльных установах. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, кіраўнікі ССНУ |
| 5. Увесці ў педагагічных і па асобных спецыяльнасцях у гуманітарных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах абавязковы экзамен па беларускай мове. | пачынаючы з 2002/2003 навучальнага года | Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, рэктары ВНУ, кіраўнікі ССНУ |
| **VI. Сістэма павышэння кваліфікацыі.** | | |
| 1. У кожным ІПК, Акадэміі паслядыпломнай адукацыі стварыць неабходныя ўмовы для павышэння кваліфікацыі на беларускай мове ўсімі катэгорыямі педагагічных работнікаў. | пастаянна | Аддзел павышэння кваліфікацыі, кіраўнікі устаноў павышэння кваліфікацыі |





# Сцяпану Аляксандровічу – 80



15 снежня спаўняецца 80 гадоў беларускаму пісьменніку, літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук, прафесару, заслужанаму работніку культуры Сцяпану Хусейнавічу Александровічу. Сцяпан (перайначанае імя з татарскага Мустафа – адно з імён прарока Мухаммада (Мір яму і міласць Усявышняга!) нарадзіўся ў старадаўнім мястэчку Капыль. Яго бацькі былі беларускімі татарамі, якія захавалі свае звычаі і абрады, але роднай мовай іх была беларуская, што паўплывала ў далейшым на выбар жыццёвай дарогі будучага літаратара. У сваіх аўтабіяграфічных нататках "Радзіма мая – Капыль" С. Александровіч з любоўю згадвае родныя мясціны, дзе прайшло яго "пастухоўскае" дзяцінства. "У Капылі, - згадвае С. Александровіч, - здаўна жыла жменька нашчадкаў татарскіх плямён. Сядзібы іх туліліся на дзвюх вуліцах – Татарскай і Замкавай, ля плыценькай Каменкі, побач з высокім замчышчам (паводле падання, усе яны некалі складалі асабістую ахову капыльскага князя). У этнаграфічным абліччы мясцовых татар захаваліся яшчэ ўсходнія рысы, сяк-так ліпелі свае звычаі і абрады, але родную мову яны ўжо даўно страцілі і гаварылі па-беларуску. Большасць сем'яў выраблялa аўчыны і скуры, некаторыя займаліся агародніцтвам ці проста земляробствам. Увогуле капыльскія татары цесна зжыліся з мясцовым насельніцтвам і ў сваім штодзённым побыце мала чым адрозніваліся ад беларусаў".

У кнізе "Пра час і пра сябе" (Мн., 1966) Сцяпан Хусейнавіч расказвае пра літаратурныя традыцыі, якія склаліся ў Капылі яшчэ да рэвалюцыі і да ўтварэння якіх найбольш прычыніліся беларускія выданні ("Вольная думка", "Заря", "Голос низа" і інш.) і дзейнасць капыляніна Цішкі Гартнага, Ігната Буйніцкага, нясвіжскіх семінарыстаў. Прыгадваючы, якім вялікім поспехам карысталася беларуская кніга ў часы яго дзяцінства, С. Александровіч пісаў: "Я чатыры гады трымаў у адной руцэ кнігу, а ў другой пугу. Чытаў многа, чытаў запоем, аддаючы перавагу беларускай кніжцы. Па руках у мястэчку хадзілі зачытаныя да дзірак раманы "Сцежкі-дарожкі" Міхася Зарэцкага, "Сокі цаліны" Цішкі Гартнага, "Палескія аповесці" Якуба Коласа. Для мяне гэтыя кніжкі былі яшчэ недасягальнай марай, я тады яшчэ чытаў "Палескіх рабінзонаў" і "У краіне райскай птушкі" Янкі Маўра, купляў усе выпускі з серый "Бібліятэчкі школьніка" і "Малады прыродазнаўца" …"

У верасні 1939 г. С. Х. Александровіч паступіў у БДУ, але скончыць яму першы курс не давялося -- забралі ў войска. А там пачалося гітлераўскае нашэсце. 16 траўня 1942 г. у баях за Керчанскі паўвостраў С. Александровіч быў паранены і трапіў у палон. З палону ўдалося ўцячы і яшчэ паваяваць у партызанскім аддзеле, але ад цяжкай хваробы лёгкіх, што набыў у палоне, не змог вылечыцца.

Важны этап у жыцці С.Х. Александровіча – шматгадовая педагагічная праца ў Наваградскай сярэдняй школе, якая размяшчалася ў будынку колішняй Беларускай гімназіі і ў настаўніцкім калектыве якой працавала шмат выкладчыкаў гэтай гімназіі. З упэўненасцю можна сказаць, што настаўніцкі калектыў дапамог завяршыцца духоўнаму станаўленню Сцяпана Хусейнавіча і знайсці сваё месца ў жыцці.

Скончыўшы завочна філфак БДУ і аспірантуру (дысертацыю абараніў у 1958 г.), С. Александровіч уліваецца ў шэрагі дзеячоў беларускай культуры. З-пад яго пяра выходзяць кнігі краязнаўча-біяграфічных нарысаў пра Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, М. Танка, К. Чорнага, П. Броўку, М. Лынькова, якія склалі кнігі "Незабыўныя сцежкі" (1959), "Па слядах паэтычнай легенды" (1965). Ім таксама напісаныя трылогія, прысвечаная жыццю Якуба Коласа ("Ад роднае зямлі", 1962; "На шырокі прастор", 1972; "Крыжавыя дарогі", 1985), аповесці "Далёкія зарніцы" (1967) – пра подзвіг народа ў вайне і шэраг літаратуразнаўчых прац: "Старонкі братняй дружбы" (1960), "Гісторыя і сучаснасць" (1968), "Пуцявіны роднага слова" (1971), "Слова – багацце" (1981).

Памёр Сцяпан Хусейнавіч 1 траўня 1986 г. "З горкім-горкім шкадаваннем думаецца: як жа заўчасна звяла яго ў магілу бязлітасная хвароба, - піша народны пісьменнік Беларусі Ніл Сымонавіч Гілевіч, - якой жа патрэбнай была б сёння яго прысутнасць у нашым грамадскім жыцці, як бы хараша служыла сёння справе нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі яго жывое слова – праўдзівае, разумнае, пераканаўчае…!".

А вось што пісала ў газеце "Наша слова" (1991 г.) літаратуразнаўца Любоў Ламека: "… Мудры беларускі татарын Сцяпан Хусейнавіч Александровіч адкрыў для нас Беларусь, беларускі народ, яго гісторыю, культуру, мову, характар, а мы, каму пашчасціла працаваць з ім, кожны раз адкрывалі яго для сябе як вучонага энцыклапедычных ведаў, вялікай адукаванасці, выключнай працавітасці. Як таленавітага педагога і асветніка, сумленнага, справядлівага і мужнага чалавека. У нашым маральна разбэрсаным, ілжывым свеце, страшэнна несправядлівым і жорсткім да яго, ён заўсёды заставаўся чалавекам светлай і чулай душы, мудрага і добрага сэрца, які бачыў, разумеў і шанаваў людзей, узвышаў сваёй дабрынёй і чалавечнасцю. Бо не толькі ў навукова-пісьменніцкай працы, але і ў жыцці спавядаў духоўнасць Ф. Скарыны, мужнасць К. Каліноўскага, высакароднасць М. Багдановіча, мудрасць і духоўнасць беларускай зямлі".

Прафесар Леанід Лыч у шэрагу прац, прысвечаных жыццю і творчасці С.Х. Александровіча, адзначае, што "…лёс не наканаваў Сцяпану Хусейнавічу доўгага веку… Не сумняваюся, што С. Александровіч актыўна далучыўся б да мастацкагна, публіцыстычнага паказу мінулага і сучаснага татарскай супольнасці, якую ён абмінуў у сваіх даследаваннях, як гэта рабілі тады і прадстаўнікі ўсіх іншых нацыянальных меншасцяў Беларусі. Не была моднай такая тэматыка. Затое ўсяляк заахвочвалася напісанне прац пра фармаванне ўяўнай новай гістарычнай супольнасці – савецкага народа. З вялікай радасцю вітаў і браў бы С. Александровіч актыўны ўдзел у нацыянальна- адраджэнскім руху татараў, не адрываючы яго ад беларускага культурна-моўнага жыцця, якому аддаў столькі творчых сіл і энергіі. Смерць не дазволіла заняць пачэснае месца на правым флянзе змаганцаў за татарскую справу, якая і тады і сёння мае вялікую патрэбу ў сапраўдных адраджэнцах. Шмат з таго, што ўжо зроблена і робіцца дзеля вяртання беларускіх татараў да сваіх этнакультурных і рэлігіных вытокаў, нусемненна, моцна цешыла б С. Александровіча. Ён цалкам падзяляў бы думку, што гэты архіважны і надзвычай важны працэс многія з кіраўнікоў татарскага адраджэння цесна ўвязваюць з карэннымі нацыянальнымі інтарэсамі беларусаў, як тытульнага народа краіны, бо якраз і сам нязменна трымаўся такой пазіцыі.

Беларускі пісьменнік татарскага паходжання Сцяпан Александровіч па крыві належыць да татарскай нацыі, а па зместу, характару сваёй дзейнасці – да беларускай. Гэта ў поўным сэнсе слова, сын двух народаў".

Напрыканцы 1996 г. у Менску прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам С. Х. Александровіча. У Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе ён працаваў з 1963 г., адбыліся навуковыя чытанні. Па матэрыялах навуковай канферэнцыі выдадзены зборнік, куды ўвайшлі артыкулы народных пісьменнікаў Я.Брыля, Н.-Гілевіча, прафесараў Дз. Бугаёва, Г.Кісялёва, Л. Лыча, Х. Александровіча, А. Грыцкевіча, А.Ліса, А. Каўкі, іншых вучоных, даследчыкаў жыцця і творчасці пісьменніка С. Х. Александровіча.

З нагоды 80-й гадавіны з дня нараджэння С. Х. Александровіча на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта 13 снежня адбудуцца навуковыя чытанні, прысвечаныя жыццю і творчасці вучонага і пісьменніка. 14 снежня ў памяшканні Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа адбудзеца вечарына памяці, прысвечаная 80-й гадавіне з дня нараджэння С. Х. Александровіча.

*Ібрагім Канапацкі.*

# Выстава беларускіх Аль-кітабаў

4 снежня ў памяшканні Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі адкрылася выстава рукапісаў беларускіх татараў, напісаных арабскімі літарамі на беларускай і польскай мовах.

На выставе прысутнічалі кіраўнікі татарскага культурна-асветніцкага таварыства, якія прамаўлялі на цудоўнай беларускай мове, амбасадар Турцыі ў РБ, госці з Лівана і іншых арабскіз краінаў. З уступным словам выступіў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Упершыню наведвальнікі змаглі пабачыць розныя віды рукапісных кніг беларуска-літоўскіх татараў.

На выставе быў распаўсюджаны каментар да гэтых кніг, які мы прапануем чытачам "Нашага слова".

Наш кар.

# РУКАПІСНЫЯ КНІГІ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ТАТАР

**Кур'ан** – святая кніга, якая была паслана прароку Мухамеду. Тэкст на арабскай мове. У мясцовых рукапісах змяшчаюцца прадмовы на беларускай ці польскай мовах з апісаннем абрадаў і малітваў, якія папярэднічаюць чытанню Кур'ана.

**Тэджвід** – кніга аб правілах чытання Кур'ана. Пісалася на старатурэцкай мове з каментарыямі на беларускай ці польскай мове.

**Тэфсір** – тлумачэнне Кур'ана. Звычайна ў тэфсіры арабскі тэкст пісалі гарызантальна, а пад ім наўскось размяшчалі пераклад і каментарыі на беларускай і польскай мовах. Тэфсір звычайна вельмі вялікая кніга.

**Хамаіл** – малітоўнік. У ім сабраны малітвы на арабскай і цюркскіх мовах (у тым ліку на старатурэцкай). Звычайна ў хамаіле арабскія і турэцкія тэксты суправаджаюцца перакладам і каментарыямі на беларускай і польскай мовах. Апрача малітваў, апісанняў абрадаў і рытуалаў ў хамаілах змяшчаюцца парады аб тым, як пазбегнуць непрыемнасцяў і дасягнуць мэты ў розных жыццёвых абставінах, а таксама па лячэнні хвароб і тлумачэнняў сноў.

**Кітаб** – у перакладзе з арабскай мовы азначае "кніга". Гэта шматмоўныя зборнікі, якія змяшчаюць паданні аб жыцці і дзейнасці прарока Мухамеда, апісанні абрадаў і рытуалаў, асноўных абавязкаў мусульман. Кітабы могуць змяшчаць біблейскія легенды, павучальныя апавяданні і нават усходнія авантурныя аповесці.

Усе тэксты на цюрскіх і славянскіх мовах напісаны арабскімі літарамі.



**Святыня ў начы.**
Макет будучай мячэці ў Менску.

Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Гаворачы пра рады Міцкевічаў і Сянкевічаў, якія зліліся у Коласе не цяжка спасцігнуць вытокі таленту вялікага беларускага пісьменніка.

Волей лёсу ў 1937 годзе траюрадная сястра Коласа перасялілася з Сейлавіч на хутар у той самы Кулік, дзе паводле легенды жыў коласаўскі Сымон-музыка.

Разам з тым у гэтай сям'і не абмінулі ўвагай той факт, што маці паходзіць з роду Сянкевічаў і адзін з трох сыноў быў названы Генрыкам у гонар нобеўскага лаўрэата Генрыка Сянкевіча.

Яшчэ адзін **Некраш** быў вядомы ў Сейлавічах, як **Люцыян** або Люцыянчык, хаця і бацька, і сын былі Стасямі. Люцыян, мабыць быў дзед ці прадзед. Вызначыўся Стась Люцыянчык тым, што ўпарта не пераязджаў з хутара. А Люцыянавая таполя на хутары дастаяла, мабыць, да пачатку 90-х гадоў.

Маці маёй бабулі па бацьку паходзіла з роду **Грынявіцкіх**. Адкуль яна прыйшла ў Пасякі, ужо цяжка сказаць.

У Сейлавічах і вакол Сейлавічаў шмат **Грынявіцкіх (Грынявецкіх)**, але прасачыць нейкую сваяцкую сувязь нашых Грынявіцкіх з Ігнатам Грынявіцкім, які падарваў расейскага цара Аляксандра II даволі складана. Аднак, калі паглядзець на сейлавіцкіх і нясвіжскіх Грынявіцкіх, то ўсе хлопцы былі надзвычай бойкія і дзёрзкія, таму кроў магла быць і адна.

З сейлавіцкіх Грынявіцкіх найболын выбітны быў Стась (Станіслаў Пятровіч Грынявіцкі). Гэта быў майстар на ўсе рукі. І сталяр, і токар, і слесар, і пячнік. Нават умеў рабіць люстэркі. Меў усялякія варштаты і станкі. За польскім часам на ровары ездзіў у Вільню, а з Сейлавіч гэта кіламетраў 200.

Служыў у польскім войску. І як ні дзіўна, будучы красавякам, стаў сяржантам (капралем ці плютановым) не памятаю. Апавядаў, як складана было красавяку камандаваць палякамі. Палякі нашых і так за паўнавартасных людзей не лічылі, а тут яшчэ сяржант. Ратавала тое, што як і ў любым войску, у польскім войску таго часу было моцна развітое зямляцтва. Акрамя красавякаў (беларусаў і ўкраінцаў) былі дзве магутныя групы варшавякаў і пазнаньцаў. Тыя паміж сабою ішлі сцяна на сцяну кожны дзень. Таму сяржант Грынявіцкі паспяхова спраўляўся з сваім падраздзелам толькі дзякуючы ўмеламу скарыстанню ўнутрыпольскіх антаганізмаў.

Распавядаў колісь, што сядзеў у турме.

*- А за што?*

*- Пабіўся на забаве*

*- А колькі ж далі?*

*- Дык, пяць гадоў.*

*- То мусіць добра пабіліся?*

*- Ды не, адзін раз усяго выцяў.*

*- А чым жа вы яго?*

*- Дык, люстэрачкам.*

*- Што ж гэта за люстэрачка, што на пяць гадоў пацягнула.*

*- А невялічкае. Я яго ў вайну з танка зняў.*

Хто яго ведае, мо гэдак і было.

Вызначыўся Стась Грынявіцкі і яшчэ адным. Як пачаў горш сябе адчуваць, дык зрабіў сабе труну, каб, як памрэ, не бегалі, а была гатовая. А паколькі, як было сказана быў майстрам адмысловым, то выдзяўб тую труну з цэльнага дуба і паставіў на вышкі. Я яе і сам бачыў недзе ў годзе 70-м. Дык вось пасля таго, як зрабіў гэтую труну, жыў яшчэ гадоў 25 ці 30 і памёр мо колькі гадоў назад. Мусілі хаваць у гэтай труне і суседзі ды сваякі вельмі баяліся, што не падымуць тую труну, а на справе аказалася, што труна была значна лягчэй звычайных. Мабыць за 30 год добра высахла, ды і майстар, як рабіў, пра вагу таксама паклапаціўся.

І завяршаючы аповед пра Грынявіцкіх з жалем павінен адзначыць, што з трох ці чатырох сейлавіцкіх сямей Грынявіцкіх не засталося ніводнага хлопца. Сейлавіцкі шляхочы род Грынявіцкіх захоўваецца толькі па жаночай лініі, а прозвішча знікла.

Скончыўся сейлавіцкі род **Шыдлоўскіх** – дзве дачкі.

Амаль такі ж лёс у роду **Секяржыцкіх (Секержыцкіх)**. Недзе з 10-12 сямей сейлавіцкіх Секяржыцкіх засталося ўсяго адзін ці два хлопцы, ад якіх мог бы прадоўжыцца род. Мне сёння вядомы Віталь Міхайлавіч Секяржыцкі, які жыве ў Нясвіжы. Па астатніх сем'ях адны дзяўчаты. Як праклён. А вось у Затурэнскім адгалінаванні Секяржыцкіх справа выглядае інакш. Праўда там была адна асаблівасць. Пры запісе прозвішча Секяржыцкі (Siekierzycki) было запісана як Сікірыцкі (Sikirycki). А ў Адася Сікірыцкага было тры сыны і дачка, у Янка Сікірыцкага – два сыны, У Зэна Сікірыцкага - сын Гэтая галіне пакуль нічога не пагражае.

Для адрознення ўсе Секяржыцкія мелі мянушкі, якія атрымоўвалі паводле розных прыкмет і асаблівасцяў (Іхімчук, Братачка, Вадарыдзік, Магазынік, Цагельнік, Ядвіньчыны, Ясішыны...)

Вялікай фізічнай сілай вызначаўся Франак Секяржыцкі (Ядвіньчын), які працаваў камбайнёрам. Калі трэба было замяніць кола ў камбайне, то ён не карыстаўся дамкратам, а браў і прыпадымаў камбайн рукамі. Дык вось яшчэ ў маладосці быў Франак дома, а з ім яшчэ нейкі хлопец. Прыходзіць бацька і кажа: "Хлопчыкі, я тут ішоў каля лесу, дык жэрдачку высек. Крыху ўтаміўся, дык кінуў на мяжы. Пайдзеце, падняcеце пад хату." Пайшлі хлопчыкі, а "жэрдачку" і падняць не змаглі. Трэба ўявіць, якую сілу меў бацька.

Секяржыцкія (Цагельнікі) атрымалі сваю мянушку ад тога, што нехта з роду пабудаваў цягельню. Цагельня не давала прыбытку і яе мусілі прадаць, а мянушка засталася. На прыкладзе гэтага роду мы бачым наколькі сейлавіцкая шляхта трымалася за сваё сляхецтва. Іосіф Секяржыцкі, бацька Франка Секяржыцкага (Цагельніка) атрымаў пасведчанне на прызнанне ў расейскім дваранстве толькі ў 1914 годзе. Таму мабыць яно і захавалася. Што яны шляхта сейлаўцы ведалі самі, а пра расейскае дваранства згадвалі па меры неабходнасці. Мабыць такая неабходнасць узнікла, таму і давялося вырабляць паперу на дваранства. Хаця пакарыстацца дваранскімі прывілеямі, напэўна, не давялося. Пачалася вайна, рэвалюцыя, а ў 1921 годзе ўжо польская ўлада адмяніла ўсе шляхочыя прывілеі ў Другой Рэчы Паспалітай.



СВИДѢТЕЛЬСТВО.

По указу ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА, дано сіе изъ Департамента Герольдіи Правительствующаго Сената ... въ томъ, что опредѣленіемъ Правительствующаго Сената, состоявшимся ... 191 года, онъ признанъ въ потомственномъ дворянскомъ достоинствѣ, со внесеніемъ въ ... часть родословной книги дворянъ ... губерніи. Установленныя пошлины за свидѣтельство представлены.

С.-Петербургъ, ... дня 191 года.

Герольдмейстеръ

Оберъ-Секретарь

Помощникъ Оберъ-Секретаря

**Пасведчанне аб прызнанні ў спадчынным дваранстве паводле азначэння сената ад 27 лютага 1914 г. Іосіфа Адамавіча Секяржыцкага, які нарадзіўся 4 траўня 1896 года, і занясенні яго ў першую частку радаводнай кнігі дваран Менскай губерні. Захоўваецца ў Франца Іосіфавіча Секяржыцкага ў в. Сейлавічы.**

Жонка Франца Секяржыцкага Ядвіга з роду Савіцкіх. Савіцкіх у Сейлавічах было некалькі сямей. (То дзве, то тры).

**Савіцкія гербу "Халява"** паходзілі з Аршанскага пав. Прадставілі шэраг дакументаў аб валоданні і арэндзе маёнткаў, квітоў і метрык, а таксама аб прыналежнасці да юрысдыкцыі замку Барысаўскага.

Рг. – Самуэль, валодаў маёнт. Раўпечыцы ў Аршанскім пав. Ды юрыздыкай Макараўшчына ў Магілёве, меў сыноў Тодара і Юзафа. У апошняга быў сын Рыгор і ўнукі Хілімон, Юры і Андрэй. Хілімон, сын Рыгора, пакінуў сыноў: Юліяна, Міхаіла, Яна і Ігната. Другі сын Рыгора Юры меў сына Зміцера. У Андрэя, сына Рыгора, былі сыны: Мацей, Тадэвуш, Дамінік.



Герб "Халява"

Прызнаны ў дваранстве 15.08.1795 г.*

* Экстракт дэкрэта выдадзены 2.08.1811 г.

Карэнных сейлавіцкіх Станкевічаў была адна сям'я. Гадоў трыццаць назад у Сейлавічы прыехала яшчэ адна сям'я Станкевічаў.

**Станкевічы гербу "Магіла"** выводзіліся: Базыль з сынамі Тамашам і Антоніем; Ян-Матэвуш з сынам Пятром; Антоні з сынамі Вінцэнтам і Юзафам; Тадэвуш з сынам Янам і братамі Міхаілам, Андрэем і Юзафам С., якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Ваўкавыскага пав. за 1800.



Герб "Магіла"

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

У Сейлавічах былі дзве сям'і Хомічаў.

**Хомічы гербу "Окша".** Зямяне Лідскага і наваградскага пав.

Вядома: прывілей Караля Жыгімонта-Аўгуста ад 1568 аб дазволе Пятру Паўловічу Хомічу, зямяніну ЯКМ, пабудаваць у сваім маёнт. Дайнава (Лідскі пав.) карчму пры дарозе вялікай з Мучы да Палстакаў на Вільню;

- канфірмацыйны прывілей на наданне Юрыем Ілінічам 5 валок зямлі ў маёнт. Сяльцо ў Мірскім графстве Х.;

- Ян і Сымон Х. Набылі ў Ігнацыя і Схалястыкі Церпіцкіх фальв. Шабаншчына ў Наваградскім пав. (1780).

Выводзіліся: Сымон і Антоні, сыны Юрыя, унукі Юзафа; Станіслаў, сын Яна, унук Юрыя, праўнук Юзафа; Мікалай і Павел, сыны Юзафа, унукі Сымона, праўнукі Паўла; Юзаф, сын Юрыя, унук Стэфана, праўнук Сымона; Адам, сын Міхала, унук Рамана, праўнук Юзафа; Тамаш, сын Францішка, унук Лукаша; Базыль з сынамі Ігнацыем і Майсеем; Юзаф з сынам Сымонам; Базыль з сынам Пятром; Бенядзікт з сынамі Сымонам, Мікалаем і Паўлам; Базыль з сынам Янам, унукам Станіславам; Вінцэнт і Станіслаў, браты родныя; Тэадор з сынам Тамашом; Юзаф, Тэадор, Адам і Міхаіл, сыны Сымона; Леанард, Караль і Францішак, сыны Антонія; Фелікс і Сельвестр, сыны Юзафа; Францішак, Тамаш, Міхаіл і Антоні, сыны Адама; Антоні, Францішак і Вінцэнт, сыны Тамаша; Міхаіл, сын Паўла Х.



Герб "Окша"

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*(Працяг у наст. нумары.)*

Павел Музычкін

# ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

У 1907 годзе ў газеце "Наша Ніва" (№24) з'явіўся першы друкаваны твор Максіма Багдановіча "Музыка", які і стаў своеасаблівым творчым маніфестам паэта. У хуткім часе былі надрукаваны творы "Прыйдзе вясна", "Ноч", "На чыжыне", "Над магілай". "Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця" – так назваў паэт гэты час. Ракуцёўскі творчы "даробак" – гэта два цыклы вершаў "Старая Беларусь" і "Места", а таксама дзве паэмы "Вераніка" і "У вёсцы" (нізка "Мадонны").

Росквіт творчага таленту Максіма Багдановіча – назва III-й залы – пачынаецца адзіным, як ужо вышэй было азначана, у жыцці паэта зборнікам вершаў – "Вянком". У гэтай зале дзве асноўныя дамінанты – зборнік на асобым стэндзе і стэнд-ніша з экспанатамі, у якіх увасоблена творчае крэда "песняра чыстае красы". ""Вянок" – гэта праўдзівая перла ў беларускай паэзіі <...> і як у летні гарачы дзень у крыштальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца нашае цела, так асвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча," - пісаў Антон Навіна, больш вядомы ў гісторыі як Антон Луцкевіч, у нумары чацвёртым "Нашай Нівы" за 1914 год. На тытуле "Вянка" пазначана, што кніга выдадзена ў 1913 годзе. Паводле Ластоўскага, зборнік з'явіўся на пачатку 1914 года. Накладам у 2000асобнікаў, якія паэт падараваў блізкім сваякам і сябрам. "Вянкі" з аўтографам паэта, падараваныя цёткам – Марыі і Магдалене, а таксама стрыечнай сястры Ганне Гапановіч, зберагаюцца ў музеі. Захоўваецца ў музеі і "Вянок", які належаў паэту Уладзіміру Дубоўка. Экспануецца "Вянок" з аўтографам – прысвячэннем Нюце Гапановіч. Зборнік паказаны ў скуранай з цісненнем аправе на асобным стэндзе. Малюнак з вокладкі "Вянка", зроблены ў 1915 годзе невядомым беларускім мастаком (вучнем Штыгліцкай школы, паводле ўспамінаў В. Ластоўскага) паўтораны на стэндзе.

Стэнд-ніша, у якім увасоблена творчае крэда "песняра чыстае красы", вельмі актыўнае па сваіх уздзеяннях, дзякуючы насычанасці і эстэтычнаму паказу экспанатаў. Здымак М. Багдановіча 1911 года – у цэнтры нішы, з двух бакоў ад яго "Наша Ніва" з "Апавяданнем аб іконніку і залатару" і "Калядная пісанка" з апавяданнем "Апокрыф".

"Евангеллем мастацтва" назваў "Апокрыф" Багдановіча крытык Антон Луцкевіч. Рэпрадукцыя гравюры "Хрыстос, які пастукаўся" (XIX ст.), што належала самому блізкаму сябру паэта з часоў гімназіі ў Яраслаўлі – Дыядору Дзябольскаму, становіцца экспанатам – сімвалам. Гэта ілюстрацыя да "Апокрыфа" – стылізаванага апавяданне, напісанага ў форме евангельскіх прыпавесцяў. У "Апокрыфе" кананізавана думка Багдановіча аб найвышэйшай каштоўнасці хараства ў жыцці.

Чацвёртая, перадапошняя, зала прываблівае незвычайнай і таямнічай назвай – "Мадонны". Гэтая зала адрозніваецца ад папярэдніх не толькі сваёй тэматыкай, але і ўвядзеннем двух інтэр'ерных вузлоў з асабістымі рэчамі Ганны Гапановіч. Промні дзённага святла трапляюць у залу праз паліхромныя (светлых колераў) вітражы з выявамі каласоў і васількоў. Крыжовая кампазіцыя, утвораная лепкай на столі (цёмна-малінавы крыж) падзяляе залу на тры ўмоўныя часткі і яднае дамінанты залы: гравюру "Сыкстынская Мадонна"; рукапісны зборнік "Зеленя", прысвечаны Нюце Гапановіч (у авальнай з пазалотай нішы); партрэт Ганны Какуевай. Крыж на столі злучае гравюру са зборнікам "Вянок" у трэцяй зале, яны знаходзяцца, такім чынам, на адной экспазіцыйнай лініі. Мадонна – адзін з цэнтральных вобразаў у творчасці М. Багдановіча, ён адлюстраваў у паэмах "У вёсцы", "Вераніка", у цыкле "Каханне і смерць" ды інш. Гравюра "Сыкстынская Мадонна" – фрагмент знакамітага шэдэўра эпохі Адраджэння – Рафаэля Санты (геліягравюра). Аўтар – Ханфштайнгль (1804-1877). Лічыцца, што "Мадонна" была падараваная М. Горкім, верагодна, падчас шлюбу Адама Багдановіча з Аляксандрай Волжынай. Яна стала сямейнай рэліквіяй, якую Багдановічы заўсёды вазілі з сабою пры шматлікіх пераездах з кватэры на кватэру. Існуе сямейная легенда: быццам падчас пажару ацалеў з усёй кватэры Багдановічаў толькі куфэрак з рукапісамі і кнігамі Максіма, які своечасова быў знесены ў падполле, а таксама гэтая гравюра. Пазней, пасля смерці Адама Ягоравіча, гравюра была падараваная яго сынам Паўлам Багдановічам сваёй унучцы - Таццяне Паповай у дзень паўналецця, а затым перададзена ў 1988 годзе ў музей.

Сярод мемарыяльных рэчаў Ганны Какуевай вылучаецца вялікі партрэт Ані ў маленстве. Гэты партрэт бачыў М.Багдановіч у гасцёўні Какуевых, дзе збіралася моладзь і Ганна грала на фартэпіяна. Адна з паэм Максіма мае назву "Вераніка" – па імені маленькай дзяўчынкі Веранікі Залатаравай, пляменніцы Дыядора Дзябольскага. Паэт ведаў яе з моманту нараджэння (1909), гуляў з ёй, прыносіў падарункі, прысвяціў некалькі вершаў. Сярод здымкаў, дакументаў, асабістых рэчаў Ганны Гапановіч цэнтральнае месца належыць рукапіснаму зборніку "Зеленя". У хуткім часе пасля выхаду "Вянка" з друку Максім падараваў адзін з асобнікаў сваёй стрыечнай сястры. Паэтычную вартасць Нюта ацаніць не магла, бо не валодала беларускай мовай. Максім выбраў з "Вянка", з рукапісаў, з твораў, апублікаваных у перыёдыцы, 22 вершы і пераклаў іх на рускую мову.



**Зала II, стылізаваная пад сярэднявечную капліцу.**

Сшытак перакладаў назваў "Зеленя" і падараваў яго Нюце ў знак сардэчнай прыязнасці. Зборнік змешчаны ў авальнай нішы разам са здымкам Ганны Гапановіч. Гэта невялікі сшытак у лінейку, пацямнелы ад часу. На першай старонцы напісана: "Максим Богданович. "Зеленя", 1909-13 гг." Да зборніка ёсць эпіграф: "Переводы стихов – словно женщины: если красивы, то неверны; если верны, то некрасивы. Немецкая писательская поговорка".

Арыгінал "Зелені" беражліва захоўваўся з 1914 года ў Ганны Гапановіч, а пасля яе смерці (1941) – у яе сястры Веры, і, нарэшце, у Наталлі Кунцэвіч, якая і перадала гэтую рэліквію ў дар музею ў 1981 г. Гэта адзін з першых экспанатаў музея.

На століку каля кутняга стэнда са здымкам цёткі Марыі ў беларускім адзенні і маленькай Наташай Кунцэвіч экспануецца дзіцячая цацка – мядзведзь Васенька. Гэтага мядзведзіка 22-гадовы Максім падараваў, у адзін з прыездаў з Яраслаўля ў Ніжні Ноўгарад, двухгадовай пляменніцы Наталлі – унучцы цёткі Магдалены. Падарунак Наталля Кунцэвіч зберагла і перадала ў музей. Мядзведзь Васенька – вялікая музейная каштоўнасць, адна з рэчаў, што трымаў у руках Максім Багдановіч.

Зала V-я і апошняя, мае назву "Смерць паэта. Нязздзейсненыя задумы". Атмасфера трагізму апошніх месяцаў жыцця паэта, нязбытнасць мар і жаданняў у V-й зале перадаюцца праз сімволіку экспанатаў і складанае мастацкае вырашэнне. У параўнанні з папярэднімі, гэтая зала менш насычаная экспанатамі. Лепка і металёвая аздоба на столі і сценах праз ідэю і вобраз Страцім – Лебядзя адлюстроўваюць тэму нязздзейсненых задум.

Паміраў Багдановіч, як і жыў, адзінока, на чужыне. А саслабелай рукою былі напісаны апошнія вершы: "Набягае яно…", "Пралятайце вы, дні…", "У краіне светлай…" і інш. Вось сумныя сведкі паэтавай смерці. – Метрычная кніга за 1917 г. з паведамленнем аб смерці селяніна Максіма Багдановіча ад сухотаў у ноч на 25 (12) траўня; пісьмовае паведамленне бацькі Адама Рыгоравіча свайму сыну Льву аб смерці Максіма – сумныя і цяжкія радкі; кніга "Вянок" – сімвал недарэмна пражытага жыцця – з кароткім вершам-развітаннем:

*У краіне светлай,*
*дзе я ўміраю,*
*У белым доме*
*ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана*
*Марціна Кухты.*

Памінальную службу адправілі ў саборы Аляксандра Неўскага. На магіле паставілі белы крыж.

Гадзіннік паэта, які адлічыў апошнія хвіліны ягонага жыцця, падараваны Максіму бацькам пасля заканчэння гімназіі, экспануецца пад партрэтам.

*Пралятайце вы, дні,*
*Залатымі агнямі.*
*Скончый век малады –*
*Аблятайце цвятамі.*
*1917 г.*

Вось гэта ўсё, што знаходзіцца ў экспазіцыі, з'яўляецца адначасова і стацыянарнай выставай і фондам музея, бо, як ужо азначалася, зусім няшмат зберэглося матэрыяльных сведкаў жыцця і дзейнасці славутага паэта нашае Бацькаўшчыны.

На сённяшні час у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча экспануецца часовая выстава карцін Менскага дзяржаўнага мастацкага вучылішча імя А.К. Глебава (заснаванага ў 1947 г.) і яго філіялаў – Гомельскага мастацкага вучылішча (заснавана ў 1989 г.) і Гарадзенскага дзяржаўнага вучылішча мастацтваў імя Алаізы Пашкевіч (з 1948 - Цёткі). Сярод карцін вылучаюцца і тэхнікай, і настроем, і прыгажосцю "Менск" мастака Грынь В. А. (1997), "Горад на пяску" М. М. Напрушкіна (2001), "Вясна" Я. В. Дворачкіна (1996) – на пейзажны жанр. А вось сацыяльна-псіхалагічнае палатно мастака Т. С. Сароміна "Пераходны ўзрост", ды яшчэ "Мой мір" Г. А. Урбановіча, напісаная ў 1998 г.. Трэба вылучыць такі складаны від мастацтва як маркетры – тут ён прадстаўлены творам "Мой горад" мастака Д. Петуха з Горадні (1996), што адлюстроўвае гістарычную частку Горадні ў выглядзе вобразаў-сімвалаў, урыўкаў, зробленых з дапамогай гравюры і стружкі на палатне. Маюцца і габелены, такі, як, напрыклад, "Горад над Нёманам" мастачкі Н. Бяловай (1996 г.), а таксама ў экспазіцыі чароўныя вырабы з дрэва на сюжэты з беларускай міфалогіі. Трэба заўважыць, што Менская дзяржаўная мастацкая вучэльня імя А. К. Глебава і яго філіялы ў Горадні і Гомелі сярод сваіх выпускнікоў маюць знакамітых сёння мастакоў, лаўрэатаў дзяржаўных прэмій і ўзнагарод, выставы твораў якіх экспануецца па ўсёй краіне, - В.К. Казакоў, Н. П. Бандарчук, С. Ф. Розаў і інш.

На мой погляд, ніякіх неспрыяльных для музея акалічнасцяў не існуе. Папершае, размешчаны музей у вельмі добрым памяшканні, мае два паверхі і вельмі прыгожа аздоблены знутры; па-другое, будынак яго ўжо па таму прываблівае да сябе наведвальнікаў, што ён размешчаны ў гістарычным цэнтры Менска, - г.зн. у найпрыгажэйшай частцы горада; патрэцяе, вельмі карысна і тое, што побач з музеем размешчаны будынкі, што таксама ўплываюць на колькасць наведвальнікаў – гэта і кнігарня, і ламбард, і бутык, і харчоўні і яшчэ іншыя, што безумоўна ўплывае на колькасць і шчыльнасць людзей, якія ў любым выпадку будуць знаходзіцца побач з музеем.

Асноўная выснова з наведвання музея, гэта неабходнасць падтрымкі, стварэння і адраджэння (гэта датычыцца Ракуцёўшчыны) ягоных філіялаў і, перш за ўсё, у тых месцах, дзе паэт жыў і працаваў доўгі час – у Вільні, у Ракуцёўшчыне, у Яраслаўлі, у Горадні і іншых месцах. У такім выпадку мы будзем мець сапраўдныя духоўныя каштоўнасці і набудзем спадчыну вялікага паэта-філосафа, паэта-грамадзяніна і мастака.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 12. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2695.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 100 руб.